// ДЗЯННІЦА

Беларуская штотыдньовая газэта.

Выходзіць у Пітраградэі, Кацярынінскі канал, дом № 72, 23.

Падпісная плата: на 12 мсц — 4 рублі
на 6 „ — 2 „

Асобны номір — 10 капеяк.

№ 7 31—XII 1916 году.



*Пітраград.*

„Гэта вайна павінна прынясьці вольнасьць усім нацыянальнасьцям“.

Гэтыя пекныя словы мы часта чуїм з вуст ня толькі грамадзянскіх дзеячау усіх народау, а і ат дзеячау ураду англіцкага і францускага; чуїм іх і хочым ад душы, каб яны ня толькі ня сціхалі, а і каб збыліся сапрауды.

Малыя народы, якіх захапіла сабою вайна, панясьлі дужа вялікія ахвяры ля супольнае карысьці усяго чалавецтва, дык на сумленьню будзїць пабядзіцяляу атдзякуваць ім за гэта.

Усе думаюць і веруць, што сучасная страшэнная вайна павінна быць вайной апошняй і вайной аслабадзіцяльніцай малых нацїяу. Яна атчыніла перад усім сьветам страшэнную трагэдыю, якая кожную хвілю мелася разыграцца над іх галавамі, і калі разыгралася, дык гібельнасцію сваею ля малых, захопляных ею нацїяу, ашаламаніла увесь сьвет, які убачыу сваімі вачыма усьо тоя, што прышлося па волі льосу пераж ывацъ горацежцам-народам.

Ня дзіва, што абачнасць гэтай трагэдыі зарадзіла ва усіх гарачых і спагадных сэрцах полымя злосьці і гострую прагу адамшчэньня зачыншчыкам вайны.

У ваччу усяго сьвета праклялїся тыя, па чыей віне аграмадныя арміі ступілі, пад грукат гармат і дым пажарау, на глебу бедных Сэрбіі, Бэльгіі, Польшчы, Чэрнагорыі, а цяпер і Румыніі. І вось гэта праклятцьця с кожным разам нібы расце і глыбея, ды ні на ногаць ня можа разлучыцца з думкай: першнаперш аслабаджэньня малых народау, ускрасіушы іх нацыональную вольнасьць на самум шырокум фундамэнці.

Само жыцьцо дыхтуя гэту думку, бо яна адна сьвятая прауда: толькі пры поунўй волі усіх народау можа панаваць на зямлі між усімі людзьмі згода і шчасьця.

*Д. Ж—ч.*

---

**Да Беларускай Інтэлігенціі.**

Гэты страшэнны час, каторы стрывожыу усьо, — гэты час, каторы нам дау гэтулькі нішчасьця, — гэты час павінін скрануць беларусоу і асабліва яго сьвятлейшых людцау- інтэлігенцію да вялікай працы на карысьць свайго Краю і народу.

Вынарадавіць — гэта льогка сказаць нашым праціунікам, алї гэта трудна зьнясьці нам.

Вось прыклад адзін сашмат. Да аднаго сьвядомага беларуса, што

праежджау праз Рыбінск, зьвярнууся селянін з пад Крэва, Ашмянскага павету, жалючыся: „Цяжка вельмі, што жыць нельга; забараняюць папякі гаварыць па нашаму. Дыкжаж маладыя яшчэ сяк так патрапляюць, а мы сталыя — ня можым гэтак, дык цэлымі днямі маучым у польскіх прытулках для уцікачоу. Гэтак цяжка — хоць ты жывы у зямлю лезь“.

Вось жыцьцьё — шчырая выцьцьо — калі гаварыць забараняюць; па польску ня умеюць, а па беларуску ні даюць...

Польскі зьдзек над Беларусамі ня толькі на чужыне. На Беларусі, зьлітай крывьёй і потам нашага народу, яны патрапляюць і тут нас крыудзіць. Па гарадох, па мястэчках а нават і па вьосках Беларусі яны пазакладалі прытулкі для дзяцей вучняу. Ведама там дзяцей беларусау вучуць па польску і нічога па беларуску. „Божэ, цось Польскэн“ і „з дымэм пожарув“ маюць тут значэньня валікшая ад пацярау...

Вы, беларускія інтэлігенты, што чураіціся называцца беларусамі і заступіцца за свой народ, вы ад каторых селянін мала што добрага маіць, — вы вінаваты народным сьльозам і енку і яго безканечнаму гору. І перш і цяпер заняты вы сваімі маленькімі справамі. Вы і цяпер заняты найбольш думкамі — каб узяць для сябе прыемнасьці з жыцьця стольки, сколькі выцягнуць можна. У вас і цяпер марнуіцца час на забавах, на адпачынку ды на флірця. Як зямля ні разступіцца і ні пахлоніць вас! Вы думаіця — народ вас забудзіць? Даруіць чужынцом за згубу і зьдзек свой, алі вас — будзіць нінавідзіць. Унукі чырванець будуць успамінаючы вас.

Апомніціся, папрауціся пакуль яшчэ час...

*Станкевіч-Войцеховіч.*

---

## Бацькава воля.

Раман *Ц. Гартнага.*

Часьціна першая.

7.

Так за работаю каратауся дзеньскора і няпрыкметна. Зося нават ня пасьпела і агледзіцца, як сонца апусцілася к гаю і косыя доугія праменьня свае пачырваніла бурачна-чырвонаю хварбаю. Цень на некулькі разоу удоужыуся, пацягнула льогкім вільготным вятрыскам. Ня чакаючы, каб зусім закацілася сонца за гай, Зося пакінула ганоу троя нідавораных, запрагла каня, сабралася ікрас і фурнула да хаты.

— Да Тройцы яшчэ сумею дааараць, — памеркавала яна сама сабе, і занялася другімі думкамі.

У мястэчка Зося таксама намерылася ехаць абходнаю пагоннаю сценкаю, каб абмінуць Васільову хату, І абмінуць та яна абмінула яе, гэтак, як і раніцаю, толькі на гэты раз ей ніўдалося так каб ня стрэцца з Васільом. Праўда, сама стрэча гэта выпала зусім асобнай, нават ня пахожай на стрэчу, але, дзякуючы гэтаму, Зося яшчэ больш разуверылася у Васілю і вельмі стала яго ненавідзяць.

Падйажджаючы к студні, у якой яна Зося раніцаю паіла каня і каторая была недалька Цішкавы хаты, пры узгорку, Зося яшчэ пры выязду з пагону пачула некі гук' як быццам-бы хтось сварыуся, а выяхаушы у вулачку, ей с першага зірку кінулася у вочы цэлая грамада людзей: баб, мужыкоу і дзяцей, якія таукліся ля студні, моцна гаманілі рагаталі і выкрычвалі. Пагнаушы каня, Зося хутка падйэхала к грамадзе, спынілася і, злезшы з

## Зорка
### Пасьвячаю «Дзянніцы».

Бачыу раз я, як с-пад хмары
Заміргала у небі зорка
І вакол па усім абшары
Асьвяціла дол і узгоркі.
Цені доугія спяшылі
Па куточках расплывацца
І пры кожнуй новуй хвілі
Стала меньш іх аставацца.
Промінь светлага міргаsuccessоньня
Над зямльою віуся шэрай
І у душы радзіу жаданьня,
У сэрцу ж радум ускрашау веру,
Ні глядзелі у неба вочы —
Іх цягнула к нізу, к долу
Пасьля нуднай цяшкай ночы,
Светам зборанай наукола.
Я дзівіуся з зоркі ранняй,
Час ад часу к ей вертауся
І ці надоуга мірганьня
Яе хопіць — ня пытауся...
Але раптам, скуль узяліся —
Ветры дзікія нагналі —
Хмары у небя сабраліся
Й зорку раньнюю схавалі.
Зноу па шэраму абшару
Патанула усьо у умроку...
І за зоркай у цемянь хмарау
Я дарэмна кідау вокам.

*Ц. Гартны.*

---

## СОНЭТ.

Як блудзячыя зоры, сышліся мы
І, як яны, разойдземося мы зноу...
Паміць смутная астанецца у душы
І у тугі час падасьць свой моцны зоу.
Як блудзячая зорка, прыйдзя образ чыйсь
І станеш у жальбе снуць успамінкі ніць;
Вольны думкі панясуцца у даль, у высь...
Маркотнасьць агарне і сэрца задрыжыць.
Но хутка пройдзя гэты зводны час;
Забыцьце попялам пасыпе нас,
Ізноу мы папляцьомся па жыцьцьовуй цаліне...

---

воза, хуччэй пачала распытвацца. што гэта здарылася тут.

— Вой, вой, галубачка ты мая, — ахвотна паведала ей Вася, спагадлівая і чесная бабулька, якая за усе свае шэсцьдзісят гадоу жыцьця нікому ніколі ні зрабіла ні каліва ні беднага крыуды.

„Каб ты ведада, Зосічка, каб ты ведала, котка мая, што тут дзеяцца, што тут чаупецца. Аяй, аяй, які грэх цяпер у свеця трымаяцца, які . . .

Дык што ж тут, што? — з гострым цікам запытала Зося.

„Ого! што ого? Гэта ж, каб ты ведала, галубка мая, вунь што вышла: бач Стэпа гэта, ну, Рыгора Нязвычнага маці, несла, ведаяш, вязанку галья с пасякі; а гэты, ведаяш, Васіль Берагоу, стрэушы яе ля студні, спыніу і кажа: — што ты накрала з мае пасякі гальлё. Тая бажыцца, да заклінацца, што не; яна, бач, нічога нявінавата: — Бог с табою, Дух Сьвяты, я, кажа, набрала у казьоннум леся...“ Але йон ня паверыу, йон адабрау гальлё, яшчэ наштурхау старую кабету. Вядома, Стэпа так і раскрычалася, каб хаця збегліся людзі пасьведчыць абусём; вось і сбеглася цэлая чарада людзей.

Зося ня магла спакойна выслухаць: ей зрабілася ня то сорамна за Васіля, як за знаймага, ня то гібельная злосць закіпела у йой на яго: здавалася, каб ня саромялася яна толькі людзей, дык кінулася б у грамаду, падбегла б к яму і перад усіма вылаялаб яго, заплявалаб вочы. Сперша, як быццам яна і намерылася гэта зрабіць, але праз момент нібы апомнілася, махнуда рукою, сплюнула на землю і ні захацеушы нават напаіць каня у студні,

А калі к магіле ужо
дабрыдзьом:
Зноу тады той образ
успамяньом,
Што песьціу і маніу нас у глыбокуй
старыне.

*Ф. Ш—р.*

**ЖАЛЬБА.**

Зямля стогня, неба плачыць,
Лес сумуя, віхор скачыць,
Сонца у кроу расплылося,
Поля кроую аблілося,
Ой тужыць лес, ой сумуя,
І зямелька бяду чуя,
І так горка неба плачыць,
Толькі віхор скачыць, скачыць...

*Лес:*
Мудрасьць згніла, сілы ні стала,
Корань атруту смокча з зямлі,
Гасніць жыцьцьо, вера прапала,
Ліжыць агонь, ой ліжыць камлі.

*Сонца:*
Людзі мяне звалі, звалі,
Людзі мяне даставалі;
А папаушы у іх рукі
Вышла з мяне кроу ды мукі.

*Зямля:*
Ой ты, сонца, ясна-вока,
Лепш лунай ты там дальока.
Ох каб з горам больш ні знацца —
Лепш з табой мне ні злучацца.

*Неба:*
Трэба плакаць няусцешна,
Бо і ты, зямельна, грэшна.

*Віхор:*
Віхор думкі вашы зная,
Паміж людзьмі разкідая.
Віхор сушыць сьльозы, кроу...

*Л. Р.*
Віхор і мяне нашоу.

*Л. Р.*

## Полёнізація Беларусі.

Полёнізація Беларусі — рэч звычайная і усім вядомая. На працягу многіх гадоу яе жыцьця яна мелася у вачу імперыалістычных і клерыкальных польскіх гурткоу, як дужа смашны і прывабны кусочык. Гэтыя польскія гурткі глядзелі і глядзяць на Беларусь, як на нешта адно, неразлучнае с Польшчай, і ніколі нідапускалі ды нідапускаюць да ся-

---

абйэхала людзей і схавалася за Цімкавай хатай. Да яе вушэй лялятали крык і гоман, і яна некулькі раз азіралася назад, толькі нічога ні магла убачыць.

Заехаушы да дому, на двор, Зося хутка управілась с канём: распрагла яго, напаіла, завяла у хлеу і падкінула у яслі ахапак свежага дзяцельніку, сама ж выйшла у сенцы, перапранулася у чысцейшую опратку і, ня пытаючы у маткі нічога есці, барджэй кінулася к ложку, каб крыху спачыць. А матка увесь час, як скора Зося увыйшла у сенцы, безсціханьня швэндалася с хаты у сенцы, та с сенцау у хату; яна зразу, убачыушы, што яе Зоська нібы маркотна крыху, падбегла к ложку і пачала распытваць, што з йою, чаму яна нічога ня кажучы, пасьпяшыла легчы.

— Да нічога, ня пужайціся вельмі гэтак, я так сабе прылягла: сон дужа пачау марыць — вось і задумала прыдрамнуць. На вячэру узбудзіцца... — А я думала, што ты, Зосячка, мо, ні дай Божа, занядужала... Спачынь-спачынь крыху, я разбуджу цябе вячэраць —, спогадна праказала Марта, прыкрыушы дачку новым стракацяньнікім дыванчыкам.

Зося сцешылася і хутка прыдрамнула. У сенях быу поґраб і ат гэтага было зімнавата; мух таксама ні адной, і спалася смашна і прыятна. Здавалася, цэлую поруб яна праспалаб, каб ніхто яе ня трывожыу, толькі яе скора раскатурхалі і пазвалі вячэраць. Ні хацелася, страх як ніхацелася Зосі паднімацца з ложку і ісьці у хату, але маці так нагальна прыкаснілася, што яна ні магла як атказацца і мусяла паслухаць.

бе думак інакшых. З прычыні таго разуменьня польскімі імпэрыалістамі стасункау да Беларусі, нацыональная пытаньне у йой заусьоды стаяла дужа востра і вызывала сабою няупынную барацьбу, якая цягнулася да часоу вайны з ніаслабным пэнтам; і толькі грукат гармат на нейкі час нібы цыглушыу яе, як і усе другія зйавішчы у жыцьці засцігнутых вайною старон. Але посьля таго, як немцам удалося заняць Польшчу, Літву і часьціну Беларусі, гэта нацыональная пытаньне у занятых крайох падняпося на поверх жыцьця з новаю сілаю.

А памагая яму разгараццa нямецкі урад, пастауляны над забранымі землямі. Надоячы газэты прынязлі дужа ня мілую нам вестку аб тым, што нямецкі урад у забранай Ліцьве і Беларусі прызнау главнай мовай-мову польскую.

Гэтым нямецкая правіцяльства хоча падлізацца да Палякау, з якімі яно мая шмат сваіх інтарэсау пакончыць, даючы Расейскай Польшчы вольнасьць гасударскую. Беларусь жа зйауляйцца у іх руках, як якая-цебудзь рэч, каторую яно дорыць на ужеху. Вядома, ля польонізатарскіх гурткоу польскага грамадзянства гэта справа ікрас на руку: што ж датыча беларусоу, дык ім гразіць нямецкая пастанова дужа вялікай бядою. Ніасілкавaушыся шчэ у сваім нацыанальным атраджэньню, Беларусь нагальна кідаїцца дзікаю сілай пад цяжкі молат польонізацыі. Перад намі устае вялікі мус ратаваць сваей Старонy. І мы паднімаїм голас пратэсту процiу гвалтаваньня немцамі роднай Беларусі, апэлюючы к усім шчырым сыном сваей Краіны і к тым людзям, якім блізка і родна мэта нацыональнай вольнасьці кожнага народу, — прылучыцца да нас.

*Д. Ж—ч.*

---

## Думкі да граматыкі.

7.

Ні як нібудзь на адум, а толькі параунаваушы нескулькі падобных слоу бяруся судзіць — якоя слова ды як таэба пісаць

---

Падняушыся з ложку, Зося барджэй прамыла халоднаю вадою заспаны твар і весяла убегла у хату, паспешна залезла за стол на свайо заусюднае мейсца, і прагна пачала ашыгаць ужо прыпасяную на сталe кіслую з затаукаю і засскваркаю капусту. Бацька толькі што вярнууся з пасякі, падгарэушы, чорны весь ат пылу і поту, таксама быу здорава вымерхаушыся і старэнна, па поуніцы чэрпау дужа паважаную ім страву. Гледзючы на Зосю і татку, Тэклячка старалася ні астацца ад іх і уганялася з ядою ікрас па бацькавым прымеру.

Калі скончылі капусту, Марта яшчэ дала бульбы з мясам і грэцкі крупнік з малаком. Як і капуста, гэты дзьве стравы былі прыкончаны так сама скора і чыста.

Павячэраушы, Мікола зараз вылез з-за стала, а Зося кінулася у вакно; Марта пачала прыбіраць са стала.

— Як ты хаця там, Зоська, справілася з орывам? — цмокаючы люльку запытау Мікола.

— Як, ці справілася? — перапытала Зося.

— А так бач, ці скончыла, ці яшчэ засталося крыху?

— А яшчэ, татачку, крыху засталося—, ня вылазючы з вакна, атказала Зося.

— Ну, усьоткі ганоу з шасьцьора загарала?

— Э, болі, — ганоу з васьмьора...

— Эгэ, та ты сеньні маладчына; апошняя скончыш на гэтым тыдні і у суботу, як раз на дзяды, можна будзя грэчку сеяць. Я думаю, яшчэ ня будзя пазнавата.

— Ды яшчэ зусім ня позна —, абазвалася з мыцяльніку Марта:

Пішуць:
падушэчка — падушачка
рабіночка — рабіначка
мамачка — мамачка

Значыцца, павэдля адных тры способы пісаньня вун гэных слоу (а якія словы да каторага з іх дапасаваць—гэта яшчэ досьць будзіць бяды падзел зрабіць), а павэдля другіх — усе гэныя словы на адзін лад пішуцца. Пэунаж, другі спосаб пісаньня самы льогкі і зусім добры.

Вотаж посьля цвёрдага гаманкà ідзець „а“ (...ачка). А посьля мяккага гаманкà будзя „і“ (...ічка):

мамусічка, бабулічка
Ганулічка, Зосічка

Таксама адны на тры лады пішуць, а другія на адзін лад гэткія во словы:

веток — ветак
вёсэк — вёсак
бабак — бабак

Пэунаж лягчэйшы способ пісаньня і зусім добры — гэта другі способ.

На гэты самы лад найлягчэй пісаць і такія во словы:

хуст*ачак*, сястр*ычак*.

Гэта значыцца, што калі слова азначаіць лік вялікі (шмат дзевачак, костачак) — дык канчатак будзя: „ак“; а калі слова азначаць будзя лік адзінокі — дык канчатак будзя посьля цьвьордага гаманкà: „ык“, і посьля мягкага гаманкà. — „ік“:

хлопчык — сыночык — конік
дожджык — каточык — козьлік
ножык — значык — возік

Йосьць словы, каторыя азначаюць тоя што мелася быць:

уводзіны — запросіны
хрезьбіны— запоіны.

Канчаюцца яны так: „... іны„. На гэты лад нікаторыя пішуць такія словы, каторыя азначаюць як што сталося:

зробліны, пішуць і так: зробляны
аддадзіны „ „ „ аддадзяны
купліны „ „ „ купляны
знесіны „ „ „ знесяны

Гэткія словы лепі пісаць канчаючы так: „яны“. Гэткім способам пішучы ня будзіць плютаніцы гэтых слоу із вышэй паказанымі, ды будуць тады пасавацца із такімі во славамі (канчатак падобны).

---

— яшчэ і людзі толькі што пряняліся за сяубу. Сьоліта Тройца ранаватая, зямля толькі што пасьпела адапрэцца.

— Ды яно ж такі і так —, пахкаючы, згадззіуся Мікола...

— А каню, бач, чаго кольвек падкінулі? — перайшоу йон к другому.

— А якжаж, я дала цэлая бярэма дзяцельніку—, скорамоуна адказала Зося і ветрам выляцела с хаты, няуспеушы нават прычыніць дзьвярэй.

— Што яна за цікавасьці убачыла там, што віхрам памчалася,— праказала сама сабе Марта і падышла к вакну.

Узбраушыся на лаву, яна чуць, ня дапаясніцы прасунулася на двор і некулькі разоу пераглянулася ва усе бакі, потым спынілася вокам на маленькуй грамаццэ людзей, якія стаялі ля платоу, Прахоравага гародчыку і рукамі аб нечум голасна. Між іншымі кабетамі Марта угледзіла Сымоніху. Саламею Янкаву і Нязвычнаго Стэцу, Рыгораву матку; усе яны і шчэ некулькі другіх, стаялі у самым сяродку грамадкі і пільней усіх былі заняты гутаркаю.

Зося настойна праціснулася у гурток і пачала сачыць за кожным словам Стэпы, якая жалілася жанкам на Берагчука, за яго няпамерную нагласць і хцівасць. Да Марты даносіліся та цэлыя словы, та кусочкі іх і яна, зацікавіушыся, пачала пільна прыслухоуваццa да гаманы, паварочваючы голау у той бок, скуль яна даносілася.

— І ты нешта убачыла там цікавая, — перабіу яе Мікола.

— Чакай троху, дай адно прыслухацца лепш, матнуушы прасаджаную назад рукою, уняла Мартамужа.

змочаны — скалечаны
зложаны — звязаны
скошаны — загнаны

Пішучы словы:

благонькі, маленькі

відзім, што над „о“ і над „е“ пад канец слова пападаіцца націск, а у тых славах, дзе націск на самым пачатку слова стаіць ці бліжэй — дык трудна згадаць — які гучны гамандк лепш пісаць пірад канчаткам такіх во слоу:

ценянькі ці ценінькі
белянькі „ белінькі
бялюсянькі „ бялюсінькі
цэлянькі „ цэлінькі
спацянькі „ спацінькі
люлянькі „ люлінькі

І так і гэтак добра, алі лепі будзя пісаць канчаючы так: „..інькі, бо на гэты лад усе гэныя і ім падобныя словы канчаць добра удаецца, а на іншы ні падходзіць; ось лепі:

люлінькі, чымся люлянькі
цэлінькі „ цэлянькі
добрынькі „ добранкі
шэрынькі „ шэрэнькі
„ шэранькі.

А затоя ось гэткія во словы трэба пісаць канчаючы: „анькі“

дзетанькі — галованькі
вішанькі — хатанькі

Усе (нарѣчія) на адзін лад канчаць лепі (на „а—я“):

доуга — посьля
добра — павэдля
міла — пекня.

*Акцьуб.*

## Навіны.

Аустрыякі гвалтам вывозюць сэрбскіх дзяцей к сабе і там прымусова вучуць іх у нямецкіх школах.

## Вайна.

Нікаторыя можа сабе думаюць, што немцау ня пірамагчы, што яны натта сільная войска маюць, гармат даволі, аружжа усякага, парадкі добрыя дапамагаюць ім

---

Але ей даужэй слухаць нядавялося: гурток мешчанак неяк рaптоуна ускалыхнууся і пачау раставаць, расходзючыся ва усе бакі вуліцы. Зося адлучылася ат усіх і бягом павярнула к сваей хаці: яна паспела прыбегчы так швыдка, што Марта незавіхнулася шчэ вылясьці з вакна.

— Што там трапілася такоускага-запытала яна дачку.

— Што, нават і казаць брыдкаліха ведая што: вунь гэты самы Васіль Бераг, ведаяця, угледзіушы, што Стэпа нясе бярэмяйка галяйка, спыніу яе ля студні, абламзау і давай спавядаць перш, а потым і штурхаць. „Гэта, кажа, нейначай ты пакрала майо гальльо, швалдыга ты нешчасная.“ Ды узяу і атабрау дровы ат Стэпы. Вось яна цяпер і выказвала сваю скаргу кабетам...

— А яно так і трэба—, злосна уставіу Мікола—: хай гэта голь нявучыцца абкрадваць чужых пасяк, ды абрываць лугоу, гародау і ніу.

Бацькавы словы Зосі зусім ніспадабаліся, але яна нічога на іх ні захацела адказваць, каб неуразіць бацькі, а спакойна і маучліва падняласся з мейсца, вышла у сенцы і пачала збірацца класьціся спаць.

На дварэ ужо цямнела: сонца схавалася за лесам, хоць яшчэ апошнія праменьня яго пекна залацілі неба і гэтым недавалі змроку аквурат ахапіць зямлю. А мо і дзеля таго ніхацела яно сходзіць з неба, што ня усе яшчэ сілчане былі гдтовы ка сну і на вуліцы чуліся клапатлівы гоман і крык... Але Зосі стала неяк ні пасабе, нудна і утомна; пачау марыць сон, і яна сеньні, раней чымсь заусьоды, рашыла лажыцца спаць,

Канец першуй часціне.

з бядой змагацца, што нібы шмат людзей трэба палажыць каб іх асіліць. Алі другія так кажунь, што гэня трэба людзей шмат траціць, гэта ня біда што яны забралі шмат дзе чужой зямлі — там ім усьожткі ня мьод, а ось прыдзіць час і яны паддадуцца, бо доуга ня змогуць галадаць. Ось у немцау тактыка браць сілай з бою, а у нас тактыка — браць іх умарыушы. Таго выйгрыш будзіць хто астаткі верх возьміць,

---

На Нямецкую „ноту" прыступіць да замірэння Расея і яе хаурусьнікі адказалі так, што ня прышоу час к гэтаму. Каб пачаць гутарку аб міру перш трэба немцау выгнаць з Бэльгіі, аслабаніць ад іх Эльзас і Лтотарынгію для французау і прылучыць да Расеі Канстантынопаль.

---

## Ад Рäдакціі.

Калі мы закладалі сваю газэту, та мы ясна азнавалі усе тые варункі, у якіх яна мелася жыць; падлічвалі тыя сілы, якія маглі на яе ахвяраваца, і ачувалі усю маласць іх і недастачу. Але, калі мы закладалі сваю газэту, дык мы ня лічыліся ні с чым, штось магло ня прыяць яе жыццю, непатуралі нічому, бо намі кіравала мэта патрэбы роднай газэты, жывога слова беларускай мовы. І гэна мэта радзіла нам веру, якая, у свой чарод, прыбауляла сілы. Так сама, мы кахалі надзею на тоя, што якаваб не была наша праца, яна усьоткі шкоды і стратку ня прынясе і хоць каму кольвек ды по сэрцу прыдзецца. Надзея у апошнім нам няслусіла: шчырым сынам свае краіны наша газэта дала усьо тоя, што ад яе можна чакаць. Большага, чымсь можна пры варунках жыцьця, агортаючых яе — даць нельга; вось і зусім напрасны якія-б ня былі нарэканьня.

Нашай газэты вышла 7 нумароу. Далей на некі час яна вымушана спыніцца. Ціжарныя варункі з усіх бакоу — віною сяму. Апошні номір захапіу Новы Год, чаму мы і радуямся, бо маям можнасць павіншаваць вас, сваіх чытачоу, пазваць да працы у надышоушым Новым годзі і пажадаць спаткацца з вамі пры шчаснейшых варунках жыцьця.

З Новым годам

З Новым шчасцям.

*Рäдакція.*

---

Рäдактар-выдавец Д. Жылуновіч.

«Русско-Французская Типографія». Петроградъ, Офицерская, 6.